


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 2 (1141) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 8 СТУДЗЕНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.




*Хлопцы са звяздою.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

## Першыя

Бягучы 1978 год упішацца ў гісторыю горада Беластока знамянальнай падзеяй — дзейнічаючы ў ім Лялечны факультэт Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы імя А. Зельверовіча ў Варшаве сёлета выпусціць першых сваіх абсальвентаў. І так, побач з лекарамі з Мэдыцынскай акадэміі, інжынерамі розных напрамкаў з Палітэхнікі, спецыялістамі па разнастайных дзялянках гуманістыкі з беластоцкага філіяла Варшаўскага універсітэта пачнуць выходзіць у свет і артысты, што спазналі таямніцы сцэнічнага майстэрства ў беластоцкай мастацкай школе!

Выкладаюць у ёй высокакваліфікаваныя спецыялісты ў асноўным з Варшавы, а ўзначальвае гэты калектыў вядомы ў Польшчы і па-за яе межамі заслужаны акцёр-лялечнік і тэатральны дзеяч, дэкан факультэта **Ян Вількоўскі.** Імкнецца ён перадаць маладым свае вялікія веды і невычэрпны вопыт, што здабыў на працягу дзесяцігоддзяў актыўнай працы на ніве польскага лялечнага тэатра. Я. Вількоўскі ад самага пачатку звязаны з гэтым тэатрам. Належыць да той групы, што ў пасляваенны час распачала адраджэнне польскага лялькарства, і да якой, між іншым, належалі: Уладзіслаў Ярэма, Я. Кільян-Станіслаўская, Г. Рыль. Яго зацікаўленне лялькай і тэатрам не змясцілася толькі ў лялечным тэатры — ён ужо 20 год супрацоўнічае з Польскай тэлевізіяй, і пастаноўкі з яго прозвішчам мы часта бачым на экранах нашых тэлевізараў. У 1974 г., калі дзякуючы намаганням дырэктара Беластоцкага лялечнага тэатра **К. Рау** паўстаў у нашым горадзе Лялечны факультэт, Я. Вількоўскі згадзіўся ўзначаліць яго як дэкан, каб унесці свой уклад і ў падрыхтоўку маладых кадраў для лялечных тэатраў нашай краіны.

— Гэта ж нашыя першародныя, — з хваляваннем кажа ён пра сваіх першых беластоцкіх выпускнікоў. — Надта ж цяжка будзе нам з імі развітацца. Але такі ўжо лёс бацькоў: раней ці пазней дзеці выходзяць з-пад іх апекі. А ўсе яны абяцаюць быць вельмі добрымі акцёрамі, сапраўднымі мастакамі сваёй справы. Зрэшты, выхоўвалі мы іх не для сякіх-такіх лялечных тэатрыкаў, але для такога тэатра лялек, які мае ажыццяўляць велічныя мастацкія, грамадскія і палітычныя заданні. Першы наш выпуск абсальвентаў — гэта яшчэ адзін з крокаў да ўзвышэння Беластока як аднаго з вядучых цэнтраў лялечнага тэатральнага мастацтва ў нашай краіне. А неўзабаве Беласток стане такім цэнтрам і ў еўрапейскім маштабе. У хуткім часе будзе здадзены ў карыстанне новы лялечны тэатр у цэнтры горада, мы робім намаганні адкрыць у нас рэжысёрскі факультэт, стварыць спецыяльны Студэнцкі лялечны тэатр, выдатна павялічваем памяшканне нашай школы. Усё гэта знаходзіць усебаковую падтрымку і дапамогу з боку беластоцкіх партыйных і адміністрацыйных уладаў. З вялікай прыхільнасцю адносіцца да нашага факультэта рэктар Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы **Т. Ламніцкі** і сенат школы.

А хто яны, першыя выпускнікі факультэта, і што думаюць пра сваю прафесію? Са значнай іх грамадкай я пазнаёміўся ў часе пастаноўкі імі п’есы С. Абразцова і С. Праабражэнскага „Вялікі Іван“ у перакладзе на польскую мову У. Ярэмы. Гэта якраз была іх дыпломная пастаноўка або інакш — практычны экзамен маладых акцёраў. Сярод іх аказалася некалькі radaвітых беластачан.

**(Працяг на стар. 4)**



*Дэкан беластоцкага лялечнага факультэта Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы ў Варшаве Ян Вількоўскі.*




### БЕЛАРУСКАЯ МОВА

*Лёс не адзін*
*табой абагрэты,*
*Мова-сялянка*
*і мова паэтаў.*
*Дзякуй табе, мая светлая,*
*За долю песні прыветнай.*

*Гукам шчаслівым і ласкавым*
*Ці несуцішнаю скрухаю*
*Я цябе, мая ластаўка,*
*Не адрываюся-слухаю...*

*Сілу сваю выпроствала*
*Ты з-пад чарноты вязкай.*
*Дыхае слова простае*
*Свежасцю праславянскай.*

*Сціплая, ды не кволая —*
*Гордаю быць умела.*
*Вечна балючым полымем*
*Хатынь твая палымнела...*

*Стала ты мне не страчаным*
*І на мяжы пакаленняў*
*Благаслаўленнем матчыным,*
*Бацькаўшчыны сумленнем.*

### СЛОВА

*Прываба слова дзіўная*
*і гукаў,*
*Што гэта слова для другіх*
*сплятаюць...*
*І смага неадольная, як тайна, —*
*Так*
*да яго парыўна цягнеш рукі.*

*Яму даўно ў табе балюча цесна.*
*Яно даўно жаданае, жывое —*
*Як ненароджанае дзіцянятка тое,*
*Што толькі ў думках і нясеш*
*і песціш..*

*Хай прысмыліш, нібы адчайна босы,*
*На вугальках сваіх гарачых думак.*
*Ад крыўды мой найверны паратунак:*
*Ідзі.*
*Сваё*
*сказаць не бойся.*

**Любоў Тарасюк**

**З БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ**

**Змітрок Бядуля**

## НА КАЛЯДЫ К СЫНУ

Хмаркі насіліся над лесам.

Розныя па колеру і фасону яны часта ахаплялі вялікую частку неба і тварылі багатыя малюнкі к таемным казкам сталетняга лесу.

...Чаго-чаго ў іх не было!

Цэлыя гарады з дзіўнымі замчышчамі, горы, выспы, азёры, агнёвыя звяры, працэсіі святых у белых вопратках, незлічоныя легіёны ваякаў на конях...

...На хмаркі і на лес часта любіла пазіраць старая ўдава Тэкля, жонка нябожчыка Цыпрука, палясоўшчыка пана Шчубальскага.

Жыла Тэкля адна ў старой хатцы, на пагорку ля лесу, хадзіла на падзённую, бокам-скокам, туды-сюды і неяк гадавалася.

...Яна любіла пазіраць на стары лес і на сівыя хмаркі доўта-доўга, і старыя вочы прыкрываў смутак: успаміны старадаўнія, як цені, лезлі ў яе душу, праляцеўшыя гады маляваліся ёй ясна, жыва, быццам перад вачыма бачыць яна ўсё... Надта шкадаваць пройдзены час няма чаго — помніць яшчэ і цяпер пабоі і лаянкі п’янага Цыпрука.

Затое адну пацеху мае яна, якая гоіць раны, адна надзея, — гэта ядыны сын яе, Лаўручок.

...Усё жыццё яна была загнана ўсімі, і калі нават былі хвілі радасці, то вочы не пакідалі выразу вечнага смутку.

Думала яна аб сыне сваім, які жыве ў вялікім горадзе, думала і цешылася...

Жыве ён сабе там панам, як людзі кажуць...

Лаўручок яе, быўшы яшчэ хлопчыкам гадоў дзесяці, спадабаўся вельмі пану Шчубальскаму за прыгожы від і спрытны розум. Бяздзетны пан забраў яго к сабе, адзяваў па-панску і, падвучыўшы крыху, аддаў пасля ў горад вучыцца.

**(Працяг на стар. 4)**

# Спатканне сяброў „Нівы"

Гэта было спатканне самых верных прыяцеляў „Нівы". Тых, што дбаюць, каб з году ў год павышалася кола вас, яе чытачоў, каб яна трапляла ў вашыя рукі як мага хутчэй, яшчэ з пахам друкарскай фарбы, свежая і таму кожную пятніцу або суботу, нягледзячы на тое, ці будзе траскучы мароз, ці непраходная распуціца, яны нясуць яе вам і на далёкі хутар за вёскаю і ў шматкватэрны дом у горадзе.

22 снежня 1977 г. па запрашэнню прыехалі ў рэдакцыю „Нівы" з розных мясцовасцей Беласточчыны найбольш самаахвярныя папулярызатары нашага часопіса, пісьманосцы: **Уладзімір Гуралеўскі з Рыбалаў, Васіль Орда з Орлі, Мікалай Асіпюк з Клейнікаў, Уладзімір Весялоўскі з Пасынкаў, Мікалай Панфілюк з Дубічаў Царкоўных, Уладзімір Місеюк са Старакорніна, Уладзімір Васільчык з Нараўкі, Сяргей Васілюк з Грыгораўцаў, Мікалай Бабко з Крушынянаў, Пётр Трафімчык з Багданкаў і Валянцін Вішанка з Рагачоў.** Прыбылі таксама: намеснік дырэктара Ваяводскага паштовага аддзялення ў Беластоку **Леан Пракаповіч** і дырэктары тых раённых паштовых аддзяленняў, дзе „Ніва" мае найбольш падпісчыкаў: гайнаўскага — **Мікалай Суліма** і бельскага **Мікалай Амельянюк.**



*Сяброў „Нівы" прывітала сакратар рэдакцыі А. Чэчуга.*

Прыбыўшых прывітала, падзякавала за ахвярную дзейнасць і заклікала да далейшага пашырэння падпіскі нашага тыднёвіка ў будучым сакратар рэдакцыі **Ада Чэчуга.** У сямейным кругу госці „Нівы" падзяліліся з яе журналістамі сваімі заўвагамі аб змешчаных дагэтуль матэрыялах, расказалі аб дасягненнях і цяжкасцях у працы. Дырэктар **Леон Пракаповіч** заверыў, што будзе клапаціцца пра тое, каб усямерна пашыраць падпіску „Нівы", асабліва ў тых мясцовасцях, дзе дагэтуль яе было менш. Дырэктар **М. Суліма** паведаміў, між іншым, што на Гайнаўшчыне ў 1977 г. разыходзілася 2 677 экземпляраў кожнага нумара „Нівы", і сказаў, што працаўнікі пошты прыкладуць намаганні, каб у будучым яшчэ павялічыць гэтую колькасць. „Таксама ёсць магчымасці пашырэння кола падпісчыкаў „Нівы" і на Бельшчыне, — сказаў дырэктар **М. Амельянюк,** — і мы не пашкадуем сіл для гэтага. Не будзем горшымі ад Гайнаўшчыны". Вядомы нашым чытачам карэспандэнт і вельмі старанлівы папулярызатар нашага часопіса **М. Панфілюк** заўважыў: „У раёне мае працы людзі выпісваюць многа розных газет і часопісаў, але найбольш „Нівы". Яе ўсе любяць і з цікаўнасцю чытаюць. У мінулым годзе ў мяне было 126 падпісчыкаў, а на 1978 г. я іх маю 133. Хоць і невялікая, але ўсё ж ёсць прыбаўка". Павялічылася падпіска нашага часопіса і ў нашага найлепшага папулярызатара **У. Гуралеўскага** (было ў 1977 г. 169 падпісчыкаў, а ў 1978 г. ёсць 172). Прыбыло і ў іншых: у **В. Орды** павялічылася з 135 на 144, **М. Асіпюка** з 127 на 146, **У. Васільчыка** з 102 на 105, **С. Васілюка** з 92 на 108 і г.д.



*А на спатканні было цікава і прыемна...*

Усім прыбыўшым пісьманосцам **А. Чэчуга** ўручыла каштоўныя ўзнагароды.

Развітваючыся, сябры „Нівы" казалі: „Да сустрэчы ў наступным годзе з яшчэ лепшымі вынікамі!"

**М. Гайдук**
Фота аўтара

# Ад родных ніў

**Зіма запрашае**

*Годзе, браце, сядзець у хаце,*
*Зіма запрашае;*
*Клічуць санкі на катанкі,*
*Буланы пархае.*
*Удзень і ўночы псуеш вочы,*
*Сядзіш упаблізу*
*І, як дзеці, звык глядзеці*
*Ў тую тэлевізу.*
*Хоць на мала, гадзін пара*
*Нам расстацца з вёскай.*
*Пракацімся, паімчымся*
*Снежнаю дарожкай.*
*Зіма бела анямела,*
*Лес ў зімовай шаце.*
*Ён шумлівы — стаў маўклівы,*
*Як не пабываці.*
*Плывуць санкі праз палянкі,*
*Іх ганяе ў бокі.*
*Званок звоніць, мароз гоніць,*
*Пячэ ў нос і шчокі.*

**А. Леўшук**

М. Шаховіч

# З народных гаворак

**брынджы** — упрыгожанне рагоў звязды, з якой хадзілі калядаваць. А ты бэры хучыэй бібулу на брынджы тні. Оно робі такіе, коб с трэтю часть рога закрывалі.

**гостік** — моцна звязаны пучок немалочанага жыта, які ставілі на каляду ў куце пад абразамі. Бэры нэсі гостіка до хаты, а я зараз вязку сіена прынэсу.

**двухрадка** — падвойная звязда, у якой адзін круг круціцца ў адзін бок, а другі ў другі. А мы з двухрадкою пуойдэмо колядоваті. Колюв батько обіцяв нам, што двухрадку зробіт.

**коляда** — куцця. Помэтай! Дісь жэ коляда і нічого йесті нэ можно. До зуоркі трэба ждаті.

**руздво** — каляды. А завтра руздво і мы колядоваті пуойдэмо!

*(Гародчына, гміна Нараў)*

# Беларускія падручнікі ў Польшчы

7 снежня 1977 года ў памяшканні БГКТ у Варшаве адбылася сустрэча з Баляславам Манкевічам, былым рэдактарам беларускіх падручнікаў і перакладчыкам польскіх падручнікаў на беларускую мову ў ПЗВС (Паньствовых закладах выдавніцтв школьных).

Б. Манкевіч паінфармаваў прысутных, што на працягу 1954-1974 гадоў у ПЗВС выйшла з друку 60 беларускіх падручнікаў, у тым ліку 30 падручнікаў па беларускай мове ды літаратуры і 30 па іншых прадметах. Выдадзены тры буквары (у 1954, 1958 і 1964 гадах), Граматыка беларускай мовы (у апрацоўцы Л. і М. Гайдукоў) і 26 чытанак-хрэстаматый.

Усе гэтыя падручнікі былі прызначаны для васьмікласнага падставовага навучання. У сувязі з падрыхтоўкай новых праграм навучання да планаванай дзесяцігодкі далейшы друк беларускіх падручнікаў пакуль што спынены.

У другой частцы свайго выступлення Б. Манкевіч сканцэнтраваў увагу слухачоў на сваіх перакладах на польскую мову дзвюх цікавых аповесцей вядомага сучаснага беларускага празаіка І. Пташнікава „Лонва" і „Тартак".

„Лонва" выйшла з друку ў 1975 годзе ў Лодзінскім выдавецтве (тыраж 5 тысяч экз.), а „Тартак" у 1977 годзе ў выдавецтве „Людова спулдзельня выдаўніча", тыражом 10 тысяч экземпляраў.

**В. Швед**

**З НАТУРЫ**



*Эх, пакатаемся!* *Фота Р. Сянько.*




Адным з цікавейшых у каляндарнай абраднасці зімовага цыклу з'яўлялася святкаванне новага года. З асаблівай урачыстасцю і пышнасцю праводзіўся „багаты вечар" напярэдадні новага года. З ім звязана вялікая колькасць варажэнняў, амаль выключным матывам якіх была справа замужаства. Варажылі пераважна дзяўчаты, прычым вельмі часта гэты рытуал траціў рытуальны сэнс, набіраючы характар гульні. Прыкладам можа быць варажэнне з куркай. У хаце збіраліся дзяўчаты, бралі па жмені пшаніцы, сядалі ў кружок і сыпалі яе насупраць сябе. Адна з іх прыносіла да хаты курку, пускала яе ў сярэдзіну кружка. Чыю пшаніцу раней дзюбне курка, тая раней за ўсіх выйдзе замуж. Такім жа спосабам праводзілася варажэнне з сабакамі і пірагамі. Гэтай жа ідэі служыла варажэнне з ботамі: ставілі іх адзін за другім ад абразоў да парога. Чый бот першы апыніцца пры парозе — тая першая выйдзе замуж. Дзяўчаты таксама запальвалі свечкі. Каб вываражыць найхутчэйшае замужжа, свечка дзяўчыны павінна згарэць першай. Іншай формай адзначалася варажэнне на імя мужа. Дзяўчына прыходзіла да суседняй хаты і, схапіўшы аладак, выбягала на вуліцу. Паводле пераканання, муж гэтай дзяўчыны павінен называцца так, як мужчына, якога яна першым сустрэне на вуліцы. Такі ж сэнс мае варажэнне са шчыптай смецця, якое дзяўчына збірае, паўторна замятаючы хату ад парога да абразоў. Каб варажэнне збылося, павінна яна выйсці з царквы раней за ўсіх і запытаць імя першага напатканага ёю мужчыны.

Больш цікавасці выклікае варажэнне з кальцом, якое захавала сваю магічную аснову: кубак з вадой, у якім клалі кальцо, ставіўся пад ложак пры галаве, прычым дзяўчына гаварыла заклён:

*„Божэ, дай мніе знаті,*
*с кім я маю на шлюб статі*
*і того во сніе ўвідаті".*

Ноччу павінен ёй прысніцца будучы муж.

У час, калі дзяўчаты займаліся варажэннем, хлопцы хадзілі па вёсцы з мэтай разбурэння ўсяго старога і непрыгожага, што сімвалізавала адмоўныя элементы рэчаіснасці. Натуральна, у гэтым адзіным у годзе вечары ніхто на іх за гэта не злаваў і не абражаўся. Таму выцягвалі яны вазы і сані з гумнаў, валаклі іх на стрэхі будынкаў або на высокія дрэвы, пераважна дубы, і там усё гэта прывязвалі. Размеры радасці залежалі ад ступені цяжкасці, з якой гаспадару прыходзілася знайсці і зняць гэтыя рэчы, каб паставіць іх у адпаведнае месца.

Не менш часта хлопцы знімалі „брамачкі" са слупаў, што, паводле іх меркавання, мела гарантаваць ім лёгкі доступ да хаты дзяўчыны. „Брамку" натуральна хавалі так, каб гаспадару нялёгка было яе знайсці, пераважна заграбалі ў стог і гэтак далей. Натуральнай з'явай сярод аднавясковай моладзі былі любоўныя пачуцці паміж хлопцам і дзяўчынай, пражываючымі часта ў адлеглых канцах вёскі. Да добрага тону належала скрываць гэтыя пачуцці ад сяброў і аднавяскоўцаў і гэта якраз выкарыстоўвалася моладдзю ў „багаты вечар", г.зн. дарогу ад хаты хлопца да варот яго каханай высцілалі „буткамі" з прызб або попелам. Такім чынам праз вуліцу вёскі, што толькі раніцай, як след, можна было разгледзець, крыжаваліся многія дарожкі і тайна, якую закаханыя сцераглі месяцамі, станавілася агульнавясковай.

У „багаты вечар" дарослыя збіраліся ў хатах, спявалі песні, выходзілі „гоготаті". Песні-„гоготушкі", пабудаваныя на аграрна-магічнай аснове, выступалі ў форме песенных заклінанняў. Іх абрадавае назначэнне было накіравана на забеспячэнне ўраджаю ў будучым, засцеражэнне яго ад нядобрай звышнатуральнай сілы і жаданне заручыцца падтрымкай сілы добрай. Як вынікае з тэкстаў песень, „гагатанне" азначала

(Працяг на стар. 5)

(Працяг са стар. 1)

# Першыя

Ролю з залатапёрым Сокалам выконвала **Марыя Сасноўская,** выхаванка беластоцкага III агульнаадукацыйнага ліцэя:

— Трапіла я на лялечны факультэт крыху выпадкова, але не шкадую: усёй душой палюбіла я гэтае мастацтва. Для мяне не важна, каб гледачы бачылі мяне на сцэне, я задавольваюся поўнасцю тым, што натхняю жыццём лялькі, голасам і рухам выяўляю сваё акцёрскае ўменне.

Пакручастай і бліскучай Змяі рух і голас дала **Аліцыя Скобей,** выпускніца I агульнаадукацыйнага ліцэя ў Беластоку:

— Вельмі люблю лялькі. Гэта чароўны свет: багаты і захапляючы, таксама і для дарослых людзей.

**Пётр Дамулевіч** выконваў у п'есе ролю аднаго з братоў, які потым стаў Царом. На лялечны факультэт яго шлях не быў простым, да яго ён рыхтаваўся доўга і мэтанакіравана. Яшчэ вучнем III агульнаадукацыйнага ліцэя ён некалькі год узначальваў школьны самадзейны тэатр, потым працаваў у Беластоцкім драматычным тэатры, выступаў там спачатку статыстам, а потым выконваў розныя эпізадычныя ролі. На факультэце ён — выдатнік вучобы, лаўрэат спецыяльнай узнагароды Міністра культуры і мастацтва.

— Што ж, — прызнаецца ён, — тэатр — мая стыхія, без яго я проста не ўяўляю свайго жыцця.

Перад і ў часе пастаноўкі „Вялікага Івана" дрыжэлі студэнты-акцёры, перажываў рэжысёр пастаноўкі і іх педагагічны апякун **Я. Вількоўскі,** хваляваліся гледачы, запоўніўшыя да апошняга месца залу. Непатрэбна — пастаноўка была вельмі ўдалай.

Пасля заканчэння спектакля былі цёплыя словы ад прадстаўнікоў культурных і грамадскіх устаноў Беластока, вязанкі ірдзістых гваздзікаў ад сяброў-студэнтаў з малодшых курсаў і ад усіх — сардэчныя пажаданні адэптам тэатральнага мастацтва, што сваім майстэрствам будуць расслаўляць па краіне і свеце беластоцкую тэатральную навучальную ўстанову.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Аліцыя Скобей са Змяёй.*



*Марыя Сасноўская са сваім залатапёрым Сокалам.*



*Януш Валесяк, родам з Лідсбарка, са сваёй лялькай.*




## Без самахода не выгадна, і з ім бяда

Калі ў вас няма брата, свата, кума, бацькі, ці сына на станцыі абслугоўвання, не купляйце самаходаў. Радасць з прычыны ўладання самаходам будзе ў вас да першага прагляду. Калі надыдзе ён, вы прастаіце цэлы дзень на нагах, заглядаючы міленька ў вочы кожнаму, хто ў вопратцы з фірмовымі знакамі загляне ў ангар. Урэшце выпусцяць вас на вячэру (бо там працуюць на дзве змены), і вы газуеце з уцехі, ажно „Сірэнка" дуба становіцца. Хутчэй яе ў гараж і дамоў.

Але назаўтра вам трэба ж ехаць. Вы ў гараж, а там пад маторам лужына гаручага. І што?

Пабег (ужо не вы — я) шукаць знаёмага механіка, які за паўлітра гарэлкі, закуску і каву наладзіць мне карбюратар.

„Чорт з ім, але цяпер папаезджу" — думаў. Толькі выехаў за Зверкі, як загарэлася электрычная інсталяцыя. Дым бухнуў проста ў вочы, а я да жонкі гавару: „Уцякай, бо згарыш і не будзе сведка, што самаход згарэў па повадў бракаробаў". Тая выскачыла і давай дзьмухаць на пярэднюю частку „Сірэнкі": „Афу-афу". Памагло. Сірэнка цэлая, толькі ніякага асвятлення, акрамя „стопа".

І зноў трэба ехаць на станцыю. Там усе механікі круціліся каля нейкага чырвонага „малыша". Некуды выязджалі ім і зноў вярталіся, ставілі на канал і... вакол яго сядзелі, курачы папяросы. Прыходзілі нейкія кліенты, на вушка шапталі, а пасля прыязджалі самаходамі, ды адразу ставілі на канал. Ад'язджалі хутка, задаволеныя.

Добрыя кліенты прыязджаюць і ад'язджаюць, а з гарантыйнымі кніжкамі чакаюць. Урэшце адзін узбунтаваўся і гаворыць механіку: „Скажыце, дзе тут робяць работы гарантыйныя, бо я з правінцыі, не ведаю". Механік адказаў, што тут, але трэба чакаць сваёй чаргі.

Чакаем і клянем усё на свеце. Урэшце падышоў да маёй „Сірэнкі" электрык, выкруціў нейкую дэталь, пайшоў у магазін, прынёс другую, і ўсё добра.

Зноў адарваўся ў мяне рычаг ад маскі. Заехаў, каб адкрылі маску, бо не магу дастацца ні да радыятара, ні да акумулятара. Пан з ваконца сказаў, што без гарантыйнай кніжкі нічога не будзе, хіба адплатна. — Добра, — гавару, — раз я забыў узяць кніжку, згаджаюся за паслугу плаціць.

Той паслаў мяне да другога. Другі сказаў, што ён мне выпіша адпаведны рахунак, калі на дыягностыцы згодзяцца выканаць. На дыягностыцы не згадзіліся.

Вось як, даражэнькія. Заплаціў амаль сто тысяч за „Сірэнку" і ездзіць не магу.

**В. Петручук**

# Весткі з трох гмінаў

### МАДЭРНІЗАЦЫЯ МЯШАЛЬНІ КАРМОЎ

Мяшальня кармоў у Валілах-станцыі (гміна Гарадок) прадукуе ў першую чаргу кармавыя канцэнтраты для быдла і свіней. Рабочыя (27 асоб) не маюць добрых умоў да працы. Зімою цахі не абаграваюцца.

Сёлета прадпрыемства будзе мадэрнізавана. Новае абсталяванне і прылады (паводле ўступнага падліку за 4 млн. 708 тыс. злотых) зменіць старое. Будуць новыя агрэгаты для чышчэння збожжа, млыны-драбілкі, аўтаматычныя дазіроўкі, збожжавыя сіласы, грузапад'ёмныя машыны, самахадовыя вагі. У эксплуатацыю будуць таксама аддадзены кацельная і сацыяльныя памяшканні з цэнтральным ацяпленнем.

Пасля заканчэння ўсіх намечаных работ, звязаных з аднаўленнем, валілаўская мяшальня кармоў павялічыць асартымент сваёй прадукцыі. Яна пачне выпускаць кармавыя канцэнтраты для парасят і хатняй птушкі.

### ПОСПЕХ МАЛАЧАРСКАГА ПРАДПРЫЕМСТВА

У 1976 годзе мадэрнізавалася малачарскае прадпрыемства ў Міхалове. Перабудавана халадзільнае абсталяванне, пабудавана новая кацельная, новае, больш сучаснае абсталяванне атрымала казеінярня і тваражкарня.

У сакавіку мінулага года міхалоўскае малачарскае прадпрыемства пачало выпускаць так званы клінковы сыр (тлусты і смачны), якраз такі, які робяць вясковыя гаспадыні. Яго мігам раскупляюць у беластоцкіх „Дэлікатэсах" і ў малачарскіх фірменных крамах.

Прадпрыемства давала аднак малую прадукцыю гэтага сыра — усяго трыста кілаграмаў у суткі. Таму на старонках „Нівы" ад 17 красавіка мінулага года (у нумары 16 (1103) мы пастулавалі павялічыць прадукцыю гэтага сыра, бо на яго ёсць вялікі попыт. Дырэкцыя Ваяводскага малачарскага кааператыва ў Беластоку прыслала ў рэдакцыю здавальняючы нас адказ і нават падзяку за зацікаўленне іх новым прадуктам. Прадукцыю павялічылі ў чатыры разы. Але заказы на клінковы сыр былі куды большыя.

У канцы кастрычніка мінулага года радасная вестка прыйшла ў малачарню. Кіраўніцтва ВСМ высока ацаніла смакавыя якасці клінковага сыра і ўзнагародзіла малачарскае прадпрыемства ў Міхалове ганаровым дыпломам. За першаякасны казеін таксама.

### ЦЁМНА НА ВУЛІЦЫ

Прайшло шмат часу з тае пары, калі электраманцёры гайнаўскага энергетычнага прадпрыемства завінцілі апошні раз новыя лямпачкі на стаўбах вулічнага асвятлення ў вёсцы Новае Ляўкова (гміна Нараўка). Лямпачкі перагарэлі і ноччу цёмна на вуліцы.

Варта, каб гэтым пацікавіўся солтыс і паведаміў начальніку гміны. Тады электраманцёры хутка прыедуць.

**Я. Цялушэцкі**

(Працяг са стар. 1)

# На каляды к сыну

У лістах да пана часамі ўспамінаў ён сваіх бацькоў. З радасці і ўцехі яны проста не ведалі, што рабіць...

Жартачкі — гэткага ўдалага сына маюць! Першы раз як ён на каляды прыехаў з гораду да пана, дык яго бацькі зараз жа прыляцелі на панскі двор і доўга адстойвалі ў кухні, пакуль сынок з'явіўся к ім. Шчасцю іх канца не было, як угледзелі яго ў чорных суконных вопратках з бліскучымі гузікамі, — якраз асэсар! Праўда, калі маці кінулася да яго абыймаць і цалаваць, дык ён засароміўся крыху і адсунуўся ўбок...

— Апанеў! — казала потым маці, і далікатным зрабіўся і гаворыць па-панску!..

„Эт! — гаварыў бацька, — думаеш што, ды і ён панам будзе!.. Глядзі, як ён ужо смяецца з нашай гутаркі ды з нас. Гэта мне не надта падабаецца..."

Маці не звяртала ўвагі на гэта. Слепа радавалася, фанабэрылася перад суседзямі. Скора паны зусім выехалі адгэтуль. З таго часу яны ўжо болей не бачылі свайго Лаўручка...

Тым часам Лаўрук вучыўся далей, як скончыў гімназію, пан выправіў яго на адукацыю ва універсітэт.

Бацькам сваім ён ніколі нічога не пісаў, але пан, аддаўшы ў арэнду двор, усё ж такі сам прыязджаў штогод даведацца і расказваў ім, што Лаўрук вучыцца ў адвакаты.

Цешылася маці:

— Во будзе падмога на старасць!

Цыпрук на гэта ёй часта гаварыў:

— Эт, дурная ты авечка. Яго падмогу сарока хвастом замяце. Чакай ад яго пад старасць пацехі, як ад рабой сучкі яек!

— Замаўчы ўжо! Стары, як малы!

...Цыпрук памёр.

Старая Тэкля асталася адна, і тады яшчэ болей запанавала ў душы яе цяга да сына.

...Прайшло яшчэ пару гадоў. Зрабілася Тэкля сухой, нізенькай, згорбленай бабулькай, зморшчанай, як той грыб.

— Вось дурная! — казалі людзі, — мае гэткага багатага сына, а сама бадзяецца невядома як і дзе!

Падышлі каляды. Увесь абшар быў пакрыты снегам... Вёскі занесены гурбамі, быццам казачныя замчышчы... А лес зрабіўся сівым і паважным.

— Апошнія каляды: зусім ужо я слабенькая...

Не хацелася ёй адной астацца ў пустцы каля лесу і пад выццём ваўкоў куццю ладзіць.

І давай, быццам гарачыя вуголлі, закрытыя попелам, выгартаць з сэрца наверх свае захаваныя жаданні, сваю глыбокую веру ў даражэнькага сына...

— Давай, — думае, — дабяруся ўжо да яго... бадай ці дацягну да вясны... Шмат дакучаць яму не буду, бо дзе яму там клапаціцца аба мне і шкада ж яго...

— Пайду да сына! — разнясла яна назаўтра па ўсёй ваколіцы, і гэтак намалола ім рознай гутаркі, што проста ўсіх суседзяў зайздрасць прабрала: жартачкі, гэткага сына мае! Ён там у судах цэлы асэсар, паперы піша і ўвесь свет проста дагары нагамі круціць.

Ускінула Тэкля хатулачку на плечы, пару лапцей на запас узяла, развіталася з бабамі і пусцілася ў дарогу. Да гораду было міль шэсць.

Выбралася раніцай на снежнае поле.

— Кажуць, ён там ажаніўся з багатай паненкай. Напэўна, унукі-жэўжыкі ёсць.

На зморшчаным твары ззяла шчаслівая ўсмешка.

Яна адвярнула тоўстую хустку ад вачэй, каб разгледзець, ці шмат ужо дарогі прайшла.

— Уга! і не думала. Ногі самі нясуць мяне, як бы трыццаць гадоў таму назад, і марозу не баюся!

І яшчэ з большым імпэтам няслі яе старыя ногі да роднага сына на каляды...

І шчасце яе расло... Вось дзе жаданне сэрца яе споўніцца! Вось калі зажыве яна, як сыр у смятане!

 

**Разведка гаспадарнасці**

### МАРНАТРАЎСТВА З НЕПРАДУМАНАСЦІ

Клуб свой жыхары вёскі Слоя гміны Шудзялава грамадскім чынам пабудавалі з дзвюх пакінутых безгаспадарскіх хатаў. Меншую хату разабралі і да большай дадалі. Падвялі кроквы і латкі пад дахоўку, бо хата была раней пакрыта саломай. Гміна дала дахоўку за 5 тысяч, і людзі накрылі дом дахоўкай. Засталося закончыць у сярэдзіне — зрабіць печы, столь, падлогу, дзверы, вокны. Начальнік гміны шукаў такіх майстроў, каб зрабілі як найтанней. І знайшоў.

Паехалі майстры ў лес, прывезлі сырой хваіны, нарэзалі на крайзэзе дошак, улажылі з сырых дошак столь і ў магазіне падлогу. Вокны купілі ў сталярні ў Саколцы з бракаў. І так танным коштам закончылі работу. Людзі глядзелі на гэтую работу і гаварылі: гэта ж фармальны сабатаж, работа каштуе 30-40 тысяч, а возьмуць за яе 100 тысяч.

Работы каля клуба закончылі ў сакавіку 1973 года. Начальнік прыняў работу і перавялі ў новы будынак клуб, які дагэтуль змяшчаўся ў прыватным памяшканні. Прыйшла вясна, сырыя дошкі сталі корчыцца, а пільснёвая пліта паадставала ад столі і сцен. Трэба было нанава рабіць рамонт клуба. У чэрвені таго ж года тры месяцы пасля заканчэння будовы начальнік наймае майстра, каб зрабіў рамонт. За рамонт плаціць 16 тысяч злотых.

Людзі сталі гаварыць на вясковых сходах, што столькі грошай усадзілі ў такую партацкую працу. Радныя на гміннай сесіі пыталіся ў начальніка, чаму так дорага заплаціў за такую работу. Начальнік не згадзіўся з такой апініяй радных і сказаў, што ўсё адбылося паводле каштарысу. Потым дабудавалі яшчэ хлявок на вугаль, за які гміна заплаціла 20 тысяч зл. Разам на рамонт клуба было выдана 141 тыс. злотых. Восенню 1973 года ў магазінку сталі гніць дошкі, а на падрубах выступіла плесня. Начальнік гміны загадаў вырваць падлогу ў магазінку, а клуб перавёў зноў у прыватнае памяшканне і плаціць за арэнду.

Радныя са Слоі запыталі на сесіі, што будзе з клубам у іх вёсцы. Столькі ж грошай гміна аддала на рамонт, а клуб у прыватным памяшканні! Будынак на клуб стаіць пусты, гміна ўжо тры гады плаціць за прыватны пакой, а людзі гавораць: „Вось дык парадак і лад!“.

**(віт)**

## Дапамагае жанчынам

Цэнтр „Сучасная гаспадыня“ ў Міхалове многа дапамагае жанчынам. Можна тут зрабіць сабе модную прычоску, зацыраваць панчохі, здаць вопратку ў хімчыстку. Цэнтр вядзе і іншыя паслуговыя пункты: рамонт радыёпрыёмнікаў і тэлевізараў, пазычальню настольнай і кухоннай пасуды.

„Сучасная гаспадыня“ арганізуе шматлікія курсы: кулінарныя, кравецкія, рацыянальнага харчавання. У 1976 годзе скарыстала з іх 300 асоб. Кожны год цэнтр арганізуе дзяцінцы на час тэрміновых работ у полі.

15 гурткоў вясковых гаспадыняў удзельнічала ў конкурсе „Букет кветак, садавіны і гародніны“. Перамаглі ў ім жанчыны з Пянькоў. Члены некаторых КГВ ходзяць на заняткі грамадска-палітычных школ, а таксама здабываюць веды на сельскагаспадарчых курсах.

Міхалоўскі цэнтр „Сучасная гаспадыня“ многа дапамагае вясковым жанчынам. За добрую працу ён узнагароджваўся ад імя ўлад Ваяводскага саюза сельскагаспадарчых спулдзельняў „Самапомач хлопска“ ў Беластоку.

**(ця)**



**Гарадскія замалёўкі.** Беластоцкая медыцынская акадэмія. Фота Я. Цялушэцкага.




*Прадаўшчык з Сакоў не заказвае сыра, бо халадзільнік сапсаваўся і цяжка знайсці майстроў-наладчыкаў. Затое тут піва ніколі не бракуе.*

**М. Лук'янюк**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

**ХРЫСЦІННАЯ**




*Ой, гук, гук, дзе дзеванькі п'ют,*
*замецёна тая гулічэнька,*
*куды ваны йдут,*
*замецёна тая гулічэнька*
*куды ваны йдут.*
*Ой, даўно-даўно я в роду была,*
*а ўжэ тая, тая дарожэнька*
*дэрном зарасла,*
*а ўжэ тая, тая дарожэнька*
*дэрном зарасла.*
*Дарожку праб'ю, дэрно прадопчу,*
*я да свае роднае матулі*
*арлом залечу,*
*я да свае роднае матулі*
*арлом залечу.*
*Ой, ні так арлом, як арліцаю,*
*дзе я была, дзе я пахажала,*
*той дзевіцаю.*

Ад Ольгі Галубоўскай 1914 г. нараджэння, вёска Новае Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 26 лістапада 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

(Працяг са стар. 3)




просьбу, накіраваную да добрых сіл прыроды, у пазнейшым да бога, а менавіта, каб ён (яны) памог у новым годзе гаспадару атрымаць высокі ўраджай:

*„Васілёва маті пушла гоготаті,*
*го-го-о-о-о-тушка,*
*нэ гоготаті, нэ гоготаті, бога просіті,*
*го-го...*
*Роді божэ жыто, на новое ліето,*
*го-го...*
*Коб у сподi корэніело, на полю снопіело*
*го-го...*
*На полю снопіело, у сторуонці спуорно,*
*го-го-го-о-о-тушка.*
*У сторуонці спуорно — на току молуотно*
*го-го-о-о-тушка.*
*На току молуотно — в діежы пудыхуодно,*
*го-го-о-отушка.*
*В діежы пудыхуодно — у пэчыэ бохністо,*
*го-го-о-о-тушка.*
*У пэчыэ бохністо — на століе скібісто,*
*го-го-о-о-тушка.*
*На століе скібісто — пуд столом крошысто,*
*го-го-о-о-тушка“.*

На працягу ўсяго года гаспадар клапоціцца аб ураджаі. З ім звязана яго надзея на шчасце і багацце. Ураджай забяспечваў гаспадара ад голаду і прыводзіў да дабрабыту. Таму ўся ўвага накіроўвалася на вынік яго працы, у якую ён укладваў усе свае сілы і здароўе.

Колькі ж мудрасці, развагі і жыццёвага вопыту наглядаецца ў святкаванні „багатага вечара“. Людзі стыхійна падзяляюцца на грамадскія групы, якія па-рознаму ўспрымаюць сэнс святкавання.

Дзяўчаты займаюцца выключна варажэннем, мэтай якога з'яўляецца найглыбейшае дзявочае жаданне — замужаства. Вядома, якая цяжкая доля чакала дзяўчыну, якая, не знайшоўшы жаніха, застаецца з бацькамі. Ёй няма куды дзецца, знікаюць надзеі і мроі аб шчасці, крыўда і сорам, сумненні ў сваёй дзявочай прыгажосці. Як жа інакш сустракаюць новы год хлопцы! Яны ў лепшым становішчы — малаважная для іх пагроза старакавалерства. І таму ў іх мерапрыемствах столькі сваволі, гумару, а само святкаванне яны ўспрымаюць як бясконцую, нічым не абмежаваную гульню.

У адрозненне ад моладзі, дарослыя з незвычайнай павагай святкуюць новы год. Ім добра вядомы турботы, звязаныя з земляробствам, з няшчасцямі, якія прыносіць градабой або засуха. І таму ў гэты вечар яны з глыбокай верай і надзеяй звяртаюцца да звышнатуральных сіл, каб заручыцца іх падтрымкай і гэтым самым забяспечыць будучы ўраджай, што азначае багацце і шчасце.

**Віктар Стахвюк**

...Кончыўся дзень. Тэкля начавала ў незнаёмай вёсцы. Добрыя людзі накармілі яе і абагрэлі. Яна ўсім расказвала, што ідзе на каляды да сына, і гэткім тонам, гэткай шчаслівай гутаркай, ажно сяляне з нейкай асобай павагай пазіралі на яе ды пачалі прасіць, каб яна там у сына за іх заступы прасіла ў судах...

Ранюсенька яна зноў кранулася ў дарогу.

...Млеюць старыя ногі... Атопкі, як калоды, зрабіліся цяжкія і цвёрдыя. Нічога — горад блізка.

Ужо здалёку відаць вежы цэркваў і касцёлаў, якія золатам у небе адліваюцца... Вось і муры рознафасонныя... Вось і гоман горада даходзіць да яе вушэй... Скора ўжо спраўдзіцца яе апошняе жаданне... У старых вачах блiснуў радасны аганёк...

— Нічога, у сына адпачну. Старыя косці выпрастаю!..

Вось пачаліся цёмныя вуліцы шумнага горада. Тут ужо Тэкля збілася з толку.

...Адважылася яна папытацца аднаго, другога, дзе тут яе сын жыве? Ён там „аблакатам“... Лаўруком завецца.



Хто пажартаваў ды паглядзеў на яе, як на дурную... Хто адвярнуўся ды пайшоў сваёй дарогай, а хто з жалю торкаў ёй у руку капеечку... Гэткім чынам нехта давёў яе да гарадавога.

Той пачаў распытвацца і, ніякага толку не дабіўшыся, павёў яе ва ўчастак. Там яна пераначавала галодная і змерзлая. Назаўтра, даведаўшыся, хто гэта яе сын, адвялі да яго.

Стукалася, стукалася яна ў дзверы, пакуль нехта адчыніў, высунуўся на палову, паглядзеў на яе і крыкнуў:

— Ідзі! ідзі! канца няма жабракам гэтым!

— Пусцеце... Я да сына свайго іду, да Лаўрука!

— Да Лаўрука?! Да сына?! Да Лаўрэнція Кіпрыянавіча?!

— Ага! ага! Я маці яго.

Той змерыў яе з ног да галавы, пакуль яна расказвала, што яна з вёскі да Лаўрука на каляды прышла, і з усмешкай пусціў у кухню.

Тут сабраліся слугі і давай шушукацца і распытвацца.

Тым часам адчыніліся дзверы з другой стараны ды ўвайшоў малады пан у чорным сурдуце...

— Лаўручок мой! Сынок! — як непрытомная, кінулася да яго Тэкля...

— Роднен...

Ён раптам пачырванеў, паглядзеў на слуг ды хрыпла крыкнуў:

— Чаму вы пускаеце ў пакой розных жабрачак шалёных?!

— Ідзі! ідзі! — звярнуўся ён да яе глуха, адрывіста, — ідзі, старушка! Я цябе... не знаю...

— А сынок мой, а Лаўручок ты мой! Маткі сваёй не пазнаеш?! Гэта ж...

Ён бразнуў дзвярыма і пайшоў у пакоі...

Той самы лёкай выправадзіў яе за дзверы...

Як зышла з маляваных сходаў, як апынулася на шумным тратуары каля варот, яна сама не памятала... Ачухалася толькі тады, калі той самы лёкай яшчэ раз выйшаў да яе і торкнуў ёй у скурчаныя ад холаду пальцы нейкія бумажкі...

— Ад пана!..

Яна нават не чула, як з яе акалелых пальцаў выпаў гасцінец роднага, доўгажаданага сына. Некалькі трохрублёвых прыліплі да макраватага тратуару...

**ЗМІТРОК БЯДУЛЯ**



 

 

ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## DWA PLUS JEDEN



**Заказвалі:** Аліна Місеюк з Дубіч, Ірэна Нікалаюк, Галіна Рэй і Вера Жук з Зубачоў.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прыснілася, што ў нас малацілі збожжа (жыта). Малаціў адзін хлапец з нашай вёскі. Пайшла я пераапрануцца. За мною пайшоў і ён. Я сказала, каб ён ішоў, таму што я хачу пераапрануцца. Думала, што ён пайшоў, і, калі стаяла ў адных трусах, убачыла, што ён не пайшоў, а глядзіць на мяне.

Пасля не магла надзець так як трэба кашулю і ўбачыла, што мяне падглядаюць два хлопцы, якія ходзяць у сёмы і восьмы клас. Хацела ад іх схавацца. Увайшла ў пўніцу, так што галава была зверху, а толькі схаваны ногі.

На другі дзень снілася, што я ехала аўтобусам у школу. Сказала шафёру, каб ён затрымаўся на вуліцы Навоткі (бліжэй у школу). Было ўжо цёмна. Дзіўна, я заўважыла, што аўтобус не ехаў з таго боку, што трэба, а з іншага, і школа была іншая, так як бы адноўленая. Станцыя аказалася на пачатку горада (у сапраўднасці ў канцы). Калі я выйшла з аўтобуса, убачыла групу хуліганаў, стаячых каля школы. Яны хацелі мяне злавіць, але ім не ўдалося гэта і яны схапілі маю сумку. Я яе моцна трымала, але яны аказаліся дужэйшымі. Баялася, каб нічога не зрабілі дрэннага і мне і сумцы. Хутчэй пайшла аб гэтым сказаць настаўніку. Калі ўвайшла ў школу, убачыла многа вучняў. Сярод іх былі дзяўчаты. Яны мяне стрымалі, каб я не ішла казаць, таму што з імі было тое самае. Неўзабаве гэтыя хлопцы прынеслі мне маю сумку. Я праверыла, ці што-небудзь не прапала. Калі заглянула ў сумку, было ўсё ў парадку і яшчэ мне палажылі некалькі прыгожых, чырвоных, чысцюсенькіх сярэдняй велічыні яблык.

Ці добры мой сон?

Галена з Бельска

**Галена!** Сны твае супярэчлівыя. Першы сон абазначае, што споўняцца твае жаданні. Ці не зменіцца ў цябе часам хлопец?..

Другі сон гаворыць аб тым, што чакае цябе нейкая сварка, раздор у сувязі з новай знаходкай.

Бачу тут аднак лагічную цэласць і, калі будзе ў цябе новы хлопец, дык напэўна, ранейшы не будзе гэтым занадта задаволены...

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ці можна забраць гаспадарку за пенсію, або за заплату без ўласніка, а калі так, то на якіх умовах?

АДКАЗ: Дзяржава можа прымусова забраць гаспадарку за пенсію ва ўмовах, калі:

1. Мужчыне споўнілася 60 год, а жанчыне 55 год, або залічаны яны да адной з груп інвалідства.
2. Гаспадарка мае абшар, большы чым 2 га.
3. Гаспадарка выказвае нізкі ўзровень прадукцыі.

Калі гаспадарка выказвае нізкі ўзровень прадукцыі, але ўласнік не мае адпаведнага ўзросту, г.зн. мужчыне не споўнілася 60 год, а жанчыне 55 год і не залічаны яны да адной з трох груп інвалідства, альбо гаспадарка мае менш чым 2 га, прымяняецца толькі прымусовы выкуп.

За выказваючую нізкі ўзровень прадукцыі лічыцца гаспадарка, якая на працягу апошніх трох год не выкарыстоўвае на сельскагаспадарчыя мэты ўсе ворныя землі, або выказвае ніжэйшы ад устаноўленага ўзровень ураджаю і жывёлагадоўлі, калі гэта выклікана нядбальствам уласніка гаспадаркі.

Апінію аб стане гаспадаркі выдаюць тры спецыялісты, якія супольна з прадстаўніком начальніка гміны, аграномам, заатэхнікам, прадстаўніком сельскагаспадарчага гуртка і солтысам праводзяць агляд гаспадаркі. На аснове гэтай апініі рашэнне выносіць начальнік гміны.

Пенсія вызначаецца на такіх самых умовах як тым, хто дабравольна аддае зямлю дзяржаве за пенсію.

## Сардэчныя тайны

Я вучуся ў апошнім класе ліцэя. Сяброўка запрашае мяне паехаць з ёю на зімовыя канікулы да цёткі, якая жыве ў Закапаным. Я вельмі ўзрадавалася. Я там ніколі не была, а да таго там жыве хлопец, з якім я пазнаёмілася ў мінулым годзе ў час летніх канікул, калі была з бацькамі на Узбярэжжы. І ён таксама там з бацькамі быў. Спадабаўся мне ён адразу. Адрозніваўся ад іншых хлопцаў — быў культурны, ветлівы, мілы. Хваліла яго і мая мама. Нават сказала, што рэдка цяпер можна такога хлопца спаткаць. І мы пасябравалі вельмі моцна. І цяпер мне яго пісьмы, быццам спатканне з ім. А гэты выезд — аказія спаткацца з ім. Не ведаю толькі, ці зрабіць яму неспадзеўку і, не паведамляючы, зайсці да яго на кватэру? Пыталася ў мамы, але яна кажа, што гэтак не выпадае дзяўчыне ісці да хлопца. А можа напісаць у пісьме, што на канікулах я буду ў Закапаным? Як гэта лепш, парай Сэрцайка.

Еля з Б.

Не бачу нічога дрэннага ў тым, каб ты і наведала хлопца на кватэры. Але лепш будзе, калі папярэдзіш яго аб сваім прыездзе пісьмом. Бо ён, нічога не спадзяваючыся, можа таксама некуды паехаць. А так супольна сабе план абмяркуеце.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




### НА КАТОК, НА САНКІ

Зіма, які рай для дзяцей! Цягне іх на двор: на канькі, на лыжы, на санкі. Як апрануць дзіця, каб было яму там і цёпла, і зручна, а адначасова не занадта горача?

Перш за ўсё паліто павінна быць не занадта доўгае, а лепш за ўсё, каб гэта была нейкая куртачка. Дзіця на дварэ вельмі многа рухаецца, і вопратка не можа яму ў гэтым перашкаджаць. Павінна яна быць, аднак, цёплая: можа гэта быць футра (натуральнае або штучнае), кажушок, ці вязаная з воўны куртачка. Ізноў жа: няхай усё гэта адначасова будзе лёгкае, каб дзіцяці было зручна бегаць, класціся на санкі, каб яно не адчувала сябе закупораным і не прыходзіла дахаты мокрае ад поту.

На нашых здымках вы бачыце мадэлі снежаньскай „Burdy“ для дзяцей. На адным — лёгкая куртачка з капюшонам са штучнага футра, да яе цёплыя боцікі і штаны. Дзяўчынка ж, якая трымае канькі, апранута ў куртачку, звязаную з воўны. Яна таксама з капюшонам. Светлыя ніткі, з якой яна зроблена, аздоблены цёмнымі. Драўляныя гузікі.

**Сяброўка**








ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ АПОВЕСЦЬ

*РАЗДЗЕЛ ДРУГІ*

### ШЛЯХ, ПОЎНЫ НЕБЯСПЕКІ

...Тыдні два назад Лену выклікалі ў штаб арміі да генерал-палкоўніка, маладога паўнаватага чалавека, які прыехаў у іх часць. Ён падрабязна распытваў яе пра Адэсу, як быццам хацеў пераканацца ў тым, што яна добра ведае горад. А потым пачаў распытваць, ці не баіцца яна вады і ці ўмее добра плаваць. Нічога лішняга ён не сказаў, але Лена зразумела: яе хочуць закінуць у Адэсу з падводнай лодкі. Аднак праз некалькі дзён Лялюшка пачаў узмоцнена рыхтаваць іх з Надзяй да скачка з самалёта.

Надзя маўчыць, і Лена дакранаецца да яе пляча.

— Чаго табе? — адгукаецца Надзя. У цемры яе твару не бачна. І дыхання з-за рокату матора не чуваць.

— Аб чым думаеш?

— Новую аўтабіяграфію вучу!

Так, і ў Лены цяпер таксама іншая біяграфія. І прозвішча не Бутэнка, а Бандарэнка. Алена Мікалаеўна Бандарэнка з Марыупаля.

І вось учора раніцай, на апошнім інструктажы, яны паставілі подпісы пад загадам, які прадпісваў ім пасяліцца ў Адэсе, прабрацца на работу ў порт і перадаваць па радыё звесткі аб выхадзе ў мора варожых караблёў і транспартаў, аб усіх грузах, якія паступаюць у порт і з яго адпраўляюцца, аб прыбыцці новых вайсковых часцей, аб танках і самалётах, а таксама аб многім іншым, што можа мець цікавасць для камандавання.

З таго моманту, як ногі разведчыц дакрануцца да зямлі і парашуты будуць надзейна схаваны, яны адразу ж становяцца дзвюма няшчаснымі дзяўчатамі, якія вымушаны былі эвакуіравацца з Марыупаля, таму што да горада набліжаўся фронт, і цяпер прабіраюцца ў Адэсу, у родны горад, дзе нарадзіліся. У гэтай прыдуманай Лялюшкам легендзе праўдай было толькі тое, што Лена сапраўды карэнная адэсітка, а Надзя правяла сваё дзяцінства недалёка ад горада.

І былі ім яшчэ дадзены яўкі. Адна з іх да Валі, дзяўчыны, якая працавала на чыгуначнай таварнай станцыі. Але звязацца з ёй можна толькі тады, калі яны ўладкуюцца ў Адэсе.

У глыбіні фюзеляжа адчыніліся дзверы, і Лена пачула хрыплаваты голас капітана Розіна, які суправаджаў іх:

— Дзяўчаты, падрыхтавацца!

Ён хутка падышоў да люка і расчыніў яго. У кабіну ўварваўся халодны вецер. Да адтуліны сцяной прыціснулася чорная, варожая цемра, прабураўленая ўспышкамі агню, быццам мішэнь, прабітая кулямётнай чаргой...

— Ды скачыце ж, нарэшце! — нецярпліва загадаў Розін, быццам некалькі разоў паўтараў загад і гэта яму ўжо надакучыла.

Вецер паволі зносіць парашут у поле. Зямля насоўваецца хутка, вось ужо яе адчуваюць падэшвы ног. Удар! Лена падае на бок, і тут жа штосьці з сілай б'е яе ў твар. Хай яна згіне, гэта ручная граната, прывязаная да пояса! Добра, што зубы засталіся цэлыя.

Лена перарэзала стропы парашута, і ён апаў, мёртва распасцёршыся ля яе ног.

Удалечыні мільгануў бледны прамень пражэктара, бесталкова прамітусіўся па небе і, упаўшы ў цемру, патух.

Яна ўскочыла на ногі, ціха свіснула. Прайшла яшчэ крокаў дваццаць, стараючыся не аддаляцца ад дрэва, каб не згубіць месца, дзе пакінуты рэчы. Зноў свіснула. І зноў Надзя не адгукнулася...

Дзе яна?.. А што, калі вецер аднёс яе далёка ўбок і яна блукае за некалькі кіламетраў адсюль?!

І раптам здалёк — ціхі свіст у адказ.

З-за кустоў паказалася знаёмая фігура з шырокімі, як у хлопца, плячыма.

— Ну, у мяне ўсё ў парадку! — дзелавіта прагаварыла Надзя. — У цябе нічога не пабілася?

— Не. А дзе твая амуніцыя?

— Вось тут, побач. — Надзя перавяла дыханне. — Як здорава, што мы не згубіліся!.. А дзе мы знаходзімся, ты ведаеш?

— Не ведаю.

Надзя памаўчала.

— Давядзецца чакаць світання.

Яна знікла ў кустах, затрашчалі галінкі, потым пачуўся яе прыглушаны голас.

— Дапамажы мне!..

Яны закапалі яе парашут.

Цяпер трэба схаваць астатнюю амуніцыю, закапаць яе да таго дня, калі, дабраўшыся да Адэсы, яны знойдуць сабе надзейнае прыстанішча, уладкуюцца ў ім і змогуць перанесці туды радыёстанцыю.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ГУРТОК ТППР У ЦЯЛУШКАХ

Моладзь вёскі Цялушкі клапацілася, каб стварыць нейкую арганізацыю ў вёсцы. Параіўшыся з актывам вёскі, партыйнай арганізацыяй, рашылі стварыць гурток Таварыства польска-савецкай дружбы. У былым будынку школы сабраліся, каб абмеркаваць прапанову.

Прыйшло нямала маладых. У гурток ТППР запісалася адразу 19 асоб, але плануецца павялічыць гурток у будучыні.

Было выбрана праўленне новага гуртка. Старшынёй стаў Уладзімір Андрэюк, яго намеснікам — Анатоль Паўлючук, сакратаром — Марыя Тамашук, а скарбнікам — Лена Міхальчук. Гурток хоча разгарнуць шырокую культурную працу. Плануюць сходы ў будынку былой школы ў кожную суботу. Плануюць працу драматычнага гуртка і хору. Жадаем поспехаў!

**М. Матвеюк**

### ДЗЯКУЙ, НАЧАЛЬНІК!

У канцы 1976 года, у інфармацыі „Хто паклапоціцца“ („Ніва“ ад 12 снежня) я пісаў аб снежнай праблеме, якая датычылася кузаўцаў. Справа ў тым, што кожны год, зімою, на павароце ля хаты Міхася Канарэўскага, аграмадныя горбы снегу ляжаць і немагчыма было туды праехаць аж да самай вясны.

Пасля надрукавання заметкі я няраз праводзіў размову з начальнікам Чаромхаўскай гміны на гэту тэму. Тав. Мікалай Тэлентэюк абяцаў вырашыць праблему. І стрымаў слова. У палове снежня мінулага года на спамянутым адрэзку дарогі былі пастаўлены драўляныя платы. Праблема вырашылася на карысць вёскі. Хачу таксама дадаць, што гміна прызначыла грошы на рамонт святліцы (і агароджы) ў Кузаве. Спадзяюся, што і тут будзе стрымана слова. Ці ж не прыемна пісаць аб такіх справах?

**(ус)**




**З Новым Годам**

*Пажаданні з Новым Годам*
*Усяму я шлю народу.*
*Шчасця ў працы і жыцці,*
*Каб шчасліва ўсе жылі!*
*Праз цябе, родная Ніва,*
*Пажаданні шлю шчаслівы!*
*Ты заглянь ва ўсе куточкі,*
*Пакланіся сынам, дочкам.*
*Каб шчасліва пражывалі,*
*Пра бацькоў не забывалі.*
*Ты заглянь да кожнай хаты,*
*Пажадай дароў багатых.*
*Ты разглянь па цэлым свеце,*
*Пакланіся усім дзецям,*
*Шчасце шлі ўсяму народу*
*З выпадку Новага Году.*

**М. Лук'янюк**

Хутка ціхі перастук рыдлёўкі змоўк. Уважліва агледзеўшы месца, каб запомніць яго, дзяўчаты пайшлі да стога, які стаяў пасярод поля, і закапаліся ў сена. Што ж рабіць далей? Ісці, пакуль не развіднее, небяспечна. Можа затрымаць патруль — людзі, якія ўначы ходзяць па дарогах, заўсёды падазроныя.

Надзя ў цемры намацала далонь Лены і паклала ў яе кавалак шакаладу.

— Запраўляйся! Невядома, калі ў наступны раз будзем есці!

— Слухай! — раптам прашаптала Лена.

Пачуўся конскі тупат, і недалёка ад іх, праз поле, праскакалі ўзброеныя коннікі.

Ці не іх шукаюць? З'яўленне самалёта, напэўна, не засталося незаўважаным.

Дзяўчаты ляжалі моўчкі, прыслухоўваліся да кожнага гуку.

Паволі пачынала світаць. Нізкія хмары закрывалі сонца. Але гарызонт святлеў і на схілах далёкага ўзгорка можна было ўбачыць вялікае сяло.

Пачынаўся першы дзень новага жыцця Лены і Надзі, Алены Мікалаеўны Бандарэнка і Марыі, сястры яе мужа. У афіцыйным жа загадзе, аддадзеным па разведаддзелу, яны коратка і выразна называліся — група „Ада“,

**(Працяг будзе)**

## Зноў на гаспадарку

Ярашэвічу Паўлу з Кнышэвіч ужо больш як 70 гадоў. Жонцы таксама. Былі ў іх тры сыны. Два пайшлі даўно ў горад на фабрыкі, а наймалодшы Іосіф адслужыў войска, вярнуўся дамоў і доўга думаў, ці быць на гаспадарцы, ці ісці на работу ў горад. Бацька з маткай прасілі: „Будзь, сынок, на гаспадарцы. Мы ж пабудавалі новую вялікую клуню, новыя хлявы, ды і хата нядрэнная. Каму ж гэта ўсё застанецца?“

Сын аднак не згадзіўся і пайшоў працаваць у сельскагаспадарчы гурток у Шудзялаве трактарыстам. А бацька, застаўшыся ў бязвыхадным становішчы, напісаў заяву ў гміну, каб узялі яго гаспадарку за пенсію. Але ў той час выйшлі новыя дзяржаўныя рашэнні адносна зямлі. Пачалі многа і важна гаварыць пра сельскую гаспадарку. Наймалодшы сын Паўла, відаць, убачыў сабе перспектыву на гаспадарцы. Ён пакінуў працу ў сельскагаспадарчым гуртку і вярнуўся на гаспадарку бацькі. Стаў добра гаспадарыць. А бацька хутка забраў сваю заяву з гміны, і так разам шчасліва жывуць.

**Віт**

## Малады экскурсавод

Малгажата Берых — адзін з найлепшых экскурсаводаў ПТТК па Белавежскай пушчы. Пушча з'яўляецца для яе непаўторнай, чароўнай краінай. Любіць яе і гэтай любоўю стараецца заразіць усіх экскурсантаў. Рашуча не любіць вадзіць экскурсій, якія едуць у Белавежу толькі напіцца гарэлкі. Гаворыць, што такія людзі ў пушчы — гэта прафанацыя яе прыгажосці і славы.

Прафесіянальна Малгажата працуе сакратаршай у Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта. Аб раслінах ведае многа, а што важнейшае — умее цікава пра іх расказваць. Сама яна — дзяўчына мілая, сімпатычная і вясёлая. Нічога дзіўнага, што ў яе адрас плывуць ад многіх экскурсій з усіх куткоў краіны словы падзякі за хвіліны, праведзеныя ў Белавежскай пушчы.

Тэкст і фота
**П. Байко**






**Марыя Базылюк.** Тое, што прысланыя вамі вершы дагэтуль не паявіліся ў друку, не абазначае, што яны не надаюцца. Прачытаў я іх вельмі ўважліва, але цяжка сказаць нешта канкрэтнае аб вашай творчасці на аснове двух вершаў. Адно можна беспамылкова сказаць, што, несумненна, маеце вы так званы „паэтычны талент“, доказам чаго з'яўляецца верш „Сонным дымам вячэрнім кладуся“. Умееце стварыць цікавыя паэтычныя вобразы. А паэзія ёсць паэзіяй, калі яна вобразная, а не сухое прамасказальнае апісанне. І гэтага прытрымоўвайцеся ў далейшай сваёй творчасці. Вы патрапіце паэтычна думаць, і гэта найважнейшае. Пазбягайце сухога апісання, так як робіце ў вершы „Бацька“. Пераступіце вы гэтую мяжу і перақазвайце тое, аб чым хочаце гаварыць мастацкімі сродкамі. Ідзіце той дарогай, якую запачаткавалі першым вершам. І гэты верш пастараемся выкарыстаць на літаратурнай старонцы. Другі змесцім у „Парнасіку“. Прышліце большую колькасць твораў, тады змагу адказаць вам шырэй і больш канкрэтна.

*(М. Шаховіч)*

## У Сакалдзе

У вёсцы Сакалда, што ляжыць на дарозе Беласток-Супрасль-Крынкі (гміна Супрасль) ёсць невялікі цэнтр Медыцынскай акадэміі ў Беластоку. Тут часта сустракаюцца вучоныя акадэміі на сімпозіумах і з'ездах. Месца дасканалае для творчых дыскусій. Чыста, свежа, кругом лес і чысціня. Таксама і студэнты Беластоцкай медыцынскай акадэміі любяць сюды прыехаць на свае студэнцкія навуковыя сустрэчы.

Гэта таксама і цэнтр адпачынку работнікаў Медыцынскай акадэміі з сем'ямі. Найбольш цэнтр выкарыстаны летам. Зімою, на Новы год арганізуюцца кулікі праз Кнышынскую пушчу. Ужо некалькі год як у Сакалду завітаў турызм. Цэнтр адпачынку ў вёсцы будзе разбудаваны, на што прызначана 7 мільёнаў злотых, аб гэтым у вёсцы шырока гаворыцца.

У гэтым годзе турыстычны сезон у Сакалдзе пачаўся навагоднім выездам вазамі ў пушчу. Адпачываць у Сакалдзе можна будзе ў кожную пару года.

**(гай)**

## Кіраўнік магазіна

Васіль Нікіцюк ужо пяць гадоў працуе ў збожжавым магазіне ў Дубічах Царкоўных. Гэта столькі, колькі існуе новы мураваны будынак магазіна. Да гэтага часу наш аднавясковец таксама працаваў у магазіне ў сельгасгуртку. Васіль — дасканалы працаўнік. Сяляне з усіх вёсак Дубіцкай гміны і яшчэ далейшых сюды прывозяць прадаваць сваё збожжа. Магазінер хутка і спраўна кожнага абслужыць, кожнаму цёплае слова знойдзе.

Найбольшы рух тут тады, калі сяляне малоцяць свае стагі. У гэты час штодзённа стаіць чарга фурманак, нагружаных залатым дабром. У такія дні Васіль разам з дачкой Нінай (памагае бацьку) прымаюць ад сялян па 20-25 тон збожжа ў дзень. Тады вядома і вечар застане іх на працы, ды яны не пакідаюць яе, пакуль ёсць чакаючыя людзі.

Варта яшчэ напомніць, якія вёскі і што прадаюць дзяржаве са збожжавых. Жыта найбольш прадае суседняя вёска Грабавец і Тафілаўцы. Ячменю — Старакорнін, Карыціскі, Махнатае. Рапсу — тыя ж самыя вёскі і яшчэ Рудуты ў Арлянскай гміне.

Восенню мінулага года былі такія дні ў дубіцкага магазінера, што ён прымаў па 60-70 тон рапсу ад сялян за адзін дзень. Збожжа з дубіцкага магазіна вандруе на дзяржаўныя збожжавыя прадпрыемствы ў многія гарады краіны. Апрача скупкі збожжа, наш магазін прадае сялянам розныя пашавыя сумесі — папулярныя мяшанкі.

**М. Панфілюк**




## У справе магіі

Даўжэйшы час ужо Я. Леанчук і М. Шаховіч вядуць цыкл гутарак пра старажытныя звычаі сярод беларусаў, дзе значную ролю адводзяць магіі — шкодніцкай і добрай. На першым месцы ў іх стаіць шкодніцкая магія, па-нашаму проста вядзьмярства. Кожны з чытачоў „Нівы“, лічу я, павінен чытаць гэтыя гутаркі, бо яны цікавыя і павучальныя. Усё старое памаленьку гіне. І гэта добра. Бо шкодніцкая магія надакучыла людзям, і трэба сказаць, нямала нашкодзіла. І сёння яшчэ сустракаюцца прыклады гэтых чортавых забабонаў.

Хачу падаць прыклад з жыцця маёй сям'і. Адразу пасля вайны мае бацькі купілі па-суседску ў старой жанчыны парасят, якія былі занядбаныя і не вельмі прыгожыя. Але, калі мая маці пачала іх добра карміць і даглядаць, яны пачалі расці, як на дражджах. Калі тая жанчына гэта ўбачыла на панадворку ў нас, дык амаль не лопнула. Штораз вяртаючыся ў нядзелю з царквы, абавязкова ставала каля варот і плакала. Праз кароткі час парасяты паздыхалі.

Сёння яшчэ сустракаюцца прыклады, што некаторыя людзі, калі прадаюць парасят, завалакваюць у горла, або ў „посюк“ валасы. Такое парася праз нейкі час здохне.

**М. Панфілюк**

### АПОШНЯЕ ПАСЯДЖЭННЕ

У снежні мінулага года адбылося апошняе пасяджэнне Прэзідыума гміннай рады нарадовай у Чаромсе. Галоўнай тэмай дня была дзейнасць гміннай рады за апошнюю кадэнцыю. Старшыня ГРН Казімір Краўчык падзякаваў радным за працу, а найбольш заслужаныя атрымалі ва ўзнагароду кніжкі. Найлепшымі раднымі гміны з'яўляюцца Міхась Маркевіч, Уладзімір Маркевіч, Мікалай Мусюк, Вера Гапанюк, Галена Крычко.

Трэба адзначыць, што чаромхаўская ГРН за час сваёй дзейнасці вырашыла амаль усе пастулаты выбаршчыкаў: пабудова дарогі Чаромха-Зубачы, з даездам да Беразішчаў (на адрэзку 10 км) — 9 млн. злотых; пабудова ясляў у Чаромсе — 1 млн. 200 тыс. зл.; пабудова вясковых крамаў у Зубачах і Вольцы Тэрахоўскай — 1 млн. 600 тыс. зл., пабудова гандлёвага павільёна ў пасёлку — 2,5 млн. зл.; пабудова аборы для букатаў у сельскагаспадарчым кааператыве ў Зубачах — 5,6 млн. зл.; адаптацыя хлеўні для свінагадоўлі ў вёсцы Чаромсе — 1,8 млн. зл.

У апошні перыяд на вул. 1 Мая і Каляёвай у Чаромсе быў пралажаны асфальт, а чыгуначная станцыя атрымала аўтаматычную цэнтралю. Насычальня правяла мадэрнізацыю свайго прадпрыемства коштам 9 млн. зл.

Гэта асноўныя праблемы, якімі жылі і гмінныя ўлады, і насельніцтва нашых вёсак. Гэта нашы дасягненні!

**Ул. Сідарук**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „ПЕРАСТАРАЎСЯ“, „Ніва“ № 46/1133 ад 13 лістапада 1977 года.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU, ODDZIAŁ OSOBOWY W BIAŁYMSTOKU.

W związku ze skargą zamieszczoną w notatce prasowej („Niwa” nr 46/1133 z dnia 13 XI 1977 r.), że w dniu 11 października 1977 roku kierowca autobusu PKS jechał na trasie Hajnówka-Żednia-Białystok na 15 minut przed czasem i w związku z tym nie zabrał wielu pasażerów, Oddział Osobowy PKS w Białymstoku przeprowadził rozmowę służbową z obsługą, podczas której ostrzeżono, że w przypadku powtórzenia się podobnego wykroczenia Dyrekcja Oddziału wyciągnie wnioski służbowe.

**Z-ca Dyrektora d/s Przewozów**
**Oddziału Osobowego PKS w Białymstoku**
**Ryszard Lider**

**Да заметкі „ЦЁМНАЯ ВУЛІЦА“, „Ніва“ № 49/1136 ад 4 снежня 1977 года.**

**Адказвае:** URZĄD GMINY W NAREWCE.

W związku z notatką krytyczną pt. „Ciemna ulica”, zamieszczoną w 49/1136 numerze tygodnika „Niwa” z dnia 4 grudnia 1977 roku uprzejmie informujemy, że oświetlenie uliczne we wsi Olchówka zostało naprawione 8 grudnia 1977 roku.

Urząd Gminy w Narewce zwracał się niejednokrotnie do Rejonu Energetycznego w Bielsku Podlaskim w sprawie wadliwego funkcjonowania oświetlenia ulicznego na terenie gminy Narewka, lecz ze względu na dużą ilość robót awaryjnych Rejon Energetyczny w Bielsku Podlaskim nie był w stanie wykonać naprawy oświetlenia ulicznego we wsi Olchówka we wcześniejszym terminie.

**Naczelnik Gminy**
**Józef Nowicki**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На дарозе з Гайдукоўшчыны ў Макаўку ў гміне Нараў, у час абмінання самахода спалохаўся конь гаспадара з Гайдукоўшчыны і скочыў пад самаход. Гаспадар зваліўся з фуры, ён ляжыць у бальніцы.

А ў Дайлідах Фабрычных у Беластоку пасярэдзіне вуліцы гуляў сямігадовы хлапчук. Папаў пад колы праязджаючага самахода, а пасля ў бальніцу.

На дарозе Кляшчэлі-Елянка, тры кіламетры ад Кляшчэляў, шафёр „Стара“ аж з Катовіц, едучы раптам заўважыў, што на сярэдзіне дарогі ляжыць чалавек. Не мог ужо абмінуць і затармазіць і праехаў над ляжачым, беручы яго паміж коламі самахода. Праехаўшы, затрымаўся. Ляжачым на сярэдзіне дарогі быў чалавек з Кляшчэляў. Самаход, праязджаючы над ім, аднак параніў яго крыху.

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартумар

## Усе паляўнічыя — манюкі

Позняя ноч. Перадапошняя ноч адыходзячага года. У юрце, якая прыляпілася да вялізнай скалы па-над цяснінай Туюк, цёпла. Тлее курай пад трыножнікам, грэецца чай у казане...

— На тым схіле гор, — разважліва гаворыць Артык, — зусім непадалёку, пасецца табун казлоў. Нядрэнна было б да навагодняга стала парачку адстрэліць...

Артык — вопытны паляўнічы, рэдка памыляецца. Але сябры ўсё ж не паверылі яму адразу, крыху паспрачаліся. А потым заціхлі, задрамалі. Не заснуў толькі самы малодшы — Мурат.

Раніцой Мурат ціха пакінуў юрту і дабраўся да грэбеня гор. Сапраўды, на схіле спакойна пасвіліся казлы. У маладога паляўнічага ажно дух заняло ад такога відовішча. У думках Мурат перастраляў амаль усіх тых жывёлін і подбегам кінуўся назад да юрты. Паляўнічыя хуценька падхапіліся і пачалі падымацца наверх.

I тут ім насустрач — двое незнаёмых паляўнічых. Прывіталіся.

— Дазвольце і нам разам з вамі паляваць, — папрасіў адзін з іх.

— Аб чым гаворка, — адказаў Артык. — Казлоў на ўсіх хопіць.

— А самі ўжо колькі ўпалявалі? — запытаў незнаёмы.

— Ды ўсіх чатырох, — смела сказаў Мурат. Выраз твару ў незнаёмага раптам змяніўся.

— Ты ведаеш, хто я такі? — ужо з пагрозай запытаў ён.

— Не, не ведаю.

— Дык вось. Накруці сабе на будучыя вусы, браканьер. Я — інспектар па гэтай вось цясніне. — Ён тут жа выняў з кішэні чырвоны білет і патрос пад носам Мурата.

Але Мурат не разгубіўся:

— А вы ведаеце, хто я такі? — запытаў ён у сваю чаргу.

— Не, не ведаю.

— Тады накруціце на свае вусы, паважаны інспектар, што я найлепшы хлус і манюка гэтага краю. Няўжо ж вы не ведаеце, што ўсе паляўнічыя маняць.

Усе прысутныя засмяяліся. Усміхнуўся і суровы інспектар:

— Праўду кажучы, стрэлаў не было чуваць.

Але трэба і нам сказаць праўду: мы змянілі свой маршрут. Нас ужо больш сталі цікавіць улары — горныя індычкі. А пра казлоў ужо не думалі. З улараў таксама смачную вячэру можна прыгатаваць.

**Т. Джаманкулаў**
Кіргізія



*Хто казаў, што гараджане не любяць гасцей з перыферыі?*

# НІЎКА



### АРОЛ

Сустрэліся два п'яныя задрыпанцы:

— Ну, што, вып'ем?
— Арол з свіннёю не п'е!
— Ну, то я паляцеў!

### ЧУЛЫ МУЖ

Жонка заліваецца слязьмі.
— Што здарылася? — хваляецца муж.
— Я праглынула іголку.
— Э, чаго плакаць! На, вазьмі другую!

### АМАЛЬ ТОЕ Ж

— Перагружваеце машыну! — дакарае рамонтнік ліфтаў жыхароў будынку. — Чуеце, як трос скавыча.

— Гэта не трос, а сабака ў ліфце. Тры гадзіны з гаспадаром выйсці адтуль не можа.

### НЯКЕМЛІВЫ

На аўтарскай сустрэчы ў Задрыпанцы.
— Ну што я, кампазітар, магу падарыць слухачам? — скромнічае госць.
— Раяль! — крыкнулі задрыпанцы.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Крыстыны Давідоўскай змяшчаем песню*

## Тёмная ночь

**Стихи В. Агатова, музыка Н. Богословского**

Темная ночь, только пули свистят по степи,
Только ветер гудит в проводах, тускло звезды мерцают...
В темную ночь ты, любимая, знаю, не спишь,
И у детской кроватки тайком ты слезу утираешь.

Как я люблю глубину твоих ласковых глаз,
Как я хочу к ним прижаться сейчас губами...
Темная ночь разделяет, любимая, нас.
И тревожная черная степь пролегла между нами.

Верю в тебя, дорогую подругу мою,
Эта вера от пули меня темной ночью хранила.
Радостно мне, я спокоен в смертельном бою,
Знаю, встретишь с любовью меня, что б со мной не случилось.

Смерть не страшна, с ней не раз мы встречались в степи,
Вот и теперь надо мною она кружится...
Ты меня ждешь и у детской кроватки не спишь,
И поэтому, знаю, со мной ничего не случится!



**...Быў гаспадаром свайго слова — нікому і ніколі яго не даваў.**

# Мінібайкі

### САМААДПЕТЫ САЛАВЕЙ

За спевы
 ад зары
Абралі
Салаўя
 ў сакратары.
І ён — замоўк.
Адно вядзе —
 „Да пабачэння!"
Што з Салаўём?
Заелі пасяджэнні.

### АСЁЛ-ВЫДАВЕЦ

— Каб спакайней
 было мне жыць,
Сатыру з гумарам
 закрыць!
Так выдавец-Асёл рашыў.
І тут жа
Стаў мішэнню
Ён за свае
Аслінае
Рашэнне.

### АДНОСНАЯ СТУПЕНЬ

(З мікрасвету)

Між вірусамі
 нават і Амёба
Важнецкая
Гіганцкая асоба.

**Сяргей Смірноў**






„Елачка".

### ПАРАДА

— Восенню, асабліва дажджлівай, я, як правіла, прыходжу на работу нявысапаўшымся, — скардзіцца доктару Знахаруку старшыня Аглаблёвіч. — Як з гэтым змагацца?

— Дасыпайце на рабоце, — раіць доктар Знахарук.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Шэф выклікае да сябе падначаленага.
— Як ваша здароўе, Браун?
— Дзякую, сэр, усё ў парадку. Я ні разу не хварэў за ўсе дванаццаць год працы ў фірме.
— Дзіўна! І ў вас ні разу не было язвы страўніка, вы не пакутавалі ад гіпертаніі, гастрыта, у вас не было перадінфарктнага стану?
— Нічога, сэр!
— Скажыце мне шчыра, Браун, а можа вы наогул не працуеце?

*

— Пане Бянкіні, вы мяне пазнаеце?
— Баюся, што не...
— Э, відаць, вы няважны фізіянаміст!
— Можа, ды яшчэ я і не Бянкіні.

*

У горадзе закрыліся ўжо ўсе магазіны і рэстараны, а Петарсан усё хадзіў па вуліцах у пошуках спіртнога. Нарэшце нейкі тып дастаў з-пад крыса бутэльку.
— Паўсотні крон.
— Чорт з табою, давай.
— Калі захочаш яшчэ, — сказаў прадаўшчык, — вось табе тэлефон, пазвані па ім.

Дома Петарсан адкаркаваў бутэльку і выявіў у ёй чыстую ваду.

У лютасці ён набраў нумар тэлефона, які даў яму прадаўшчык на вуліцы. Заспаны жаночы голас адказаў:
— Дзяжурны дыспетчар гарадскога водаправода слухае...

### ЗАДРЫПАРХІТЭКТУРА

*Новы будынак цэнтра здароўя у Старым Ляўкове. Трэба мець моцныя нервы, каб спакойна глядзець на гэту архітэктуру. А мо такі эфект і хацеў выклікаць аўтар праекта? Тады ён — геній!*

# Курёзы

### БІЗНЕС ПА-ІСПАНСКУ

Дзе толькі не спрабавала зрабіць артыстычную кар'еру мадэльерка Надзюшка. Яна нават спрабавала дубліраваць Софі Ларэн, здымаючыся замест яе і без яе згоды ў парнаграфічных фільмах. Але ўсё гэта не прыносіла ёй пажаданых вынікаў. Тады яна вырашыла паспытаць шчасця ў бізнесе па-іспанску. Тым больш, што адна іспанская кінафірма прапанавала ёй здымацца ў галоўнай ролі свайго чарговага „шэдэўра". Ды тут атрымалася нечаканая асечка: аказваецца, кантракт гэты не можа быць рэальным па існуючых законах Іспаніі, паколькі Надзюшка не мае грамадзянства гэтай краіны.

Мадэльерка была ў роспачы. Але знайшліся добрыя сябры, якія параілі надзейнае выйсце. Надзюшка пагадзілася пайсці на фіктыўны шлюб з карэнным іспанцам. Мужам яе стаў малады чалавек, які развозіў на тачцы гароднину, і пагадзіўся за пўны ганарар ажаніцца хоць на самой вядзьмарцы з пекла.

Шлюб быў афармлены хутка, не больш заняло часу і само вяселле, якое адбылося ў адной з ціхіх мадрыдскіх піўнушак. Выпілі шампанскага за поспех і тут жа „муж", атрымаўшы добрую суму грошай, падпісаў пагадненне. Ён абавязаўся больш ніколі не пападацца на вочы сваёй „жонцы". І таксама зрабіў на гэтым свой бізнес.

Няма ўпэўненасці толькі ў адным: ці стрымае ён свае слова, ці не заявіць ён свае правы мужа пазней, калі Надзюшка стане кіназоркай і будзе мець вялізныя даходы?




**Камень, які ніхто не можа падняць, — нікому не патрэбен.**